## БАСЯ

– Дабранач, Бася... – шэптам сказала мама, і дзверы зачыніліся.

Бася ляжала і глядзела на столь. Ёй так карцела з кім-небудзь пагуляць.

Раптам у яе з’явілася ідэя. Дзяўчынка хуценька ўзяла каляровыя алоўкі і намалявала на сцяне вока.

– Чагосьці бракуе, – падумала Бася.

– Ну, вядома! – і ў вока з’явіліся два крылы.

– А ты нішто сабе.



Бася накрылася коўдрай і доўга разглядала створаную ёю дзіўную істоту. Дзяўчынка і сама не заўважыла, як заснула.

Раптам у калідоры пачуліся крокі. Бася з хуткасцю ветру скокнула ў ложак. Толькі зараз яна заўважыла, што па ўсім памяшканні лётаюць бурбалкі!

«Як прыгожа», – падумала Бася, і дзверы ў пакой адчыніліся.

– Як прыгожа… – зашаптала мама і паправіла дачцэ коўдру.

Як толькі мама выйшла за дзверы – дзяўчынка імгненна кінулася да шафы. Піглас спаў, паклаўшы пад бачок крыло.

– Дабранач, Піглас!



Засынаючы, Бася думала пра тое, як будзе цудоўна, калі яе новы знаёмы паселіцца ў іх доме.



## МАНДАРЫНЫ НА СНЕЗЕ

– Я неўзабаве вярнуся! – сказала Бася Пігласу, які яшчэ спаў.

Яна схапіла заплечнік і пабегла ў школу. На занятках час цягнуўся так марудна, што, здавалася, ён увогуле спыніўся. Бася лічыла кожную хвіліну, усё думала, ці прачнуўся Піглас.

Раптам за акном дрэва захісталася і з'явіліся бурбалкі.

– Піглас! – узрадавалася Бася.

Ён сядзеў на галінцы. Дзяўчынка памахала яму рукой, і праз імгненне дзіўная птушка апынулася на яе падручніку. Не паспела Бася прыкрыць яго далонькамі, як Піглас склаў крылы ў яе кішэні.

– Як у цябе гэта атрымліваецца? – ойкнула яна.

– Барбара! – настаўніца строга пастукала пальцам па стале. З кім ты там размаўляеш?

– Праба… – пачала гаварыць Бася і раптам убачыла Пігласа на галаве настаўніцы. Дзяўчынка, не стрымаўшыся, засмяялася.

– Барбара! – больш строга сказала настаўніца.



Дзеці чамусьці не смяяліся. І Бася зразумела, што, апроч яе, Пігласа ніхто не бачыў.

Дзяўчынка бегла дадому. Пігласа то сядаў на яе шапку, то коўзаўся, нібыта з горкі, на плячах сустрэчных людзей. Басю гэта вельмі цешыла. Яна бегла, не звяртаючы ўвагі ні на што, акрамя Пігласа.





## ПРЫЛЯЦЕЎ

Бася прачнулася ад гукаў за акном. Нешта білася аб шкло. Дзяўчынка зазірнула за фіранку, потым глянула на пустую сцяну і аслупянела ад здзіўлення:

– Як ты там апынуўся? Ты быў на сцяне!

Бася працерла вочы, але істота за шклом не знікала.

– То бок гэта не сон?!.. Ляці да мяне!

Яна адчыніла акно, і разам з ветрам у яе пакой заляцеў *ён*.

– Як тваё імя? – спытала Бася. Але ў адказ незвычайная птушка толькі выпусціла бурбалку, надзвычай падобную да мыльнай.

– Ну, чаго ты маўчыш?

Бурбалак большала і большала.

– Хм… Ты, напэўна, не ўмееш размаўляць… І што нам цяпер рабіць?

Раптам бурбалкі сталі склейвацца ў літары. Яны выбудоўваліся адна за адной, нібыта вагончыкі ў цягніку.

– ПІГЛАС! – прачытала Бася.

– Тваё імя Пігляс?

Вока радасна запляскала крыламі.



БАМС!

Бася толькі паспела заўважыць, як з рук бабулі выпаў пакет і ўсе мандарыны з яго выкаціліся на снег.





Яна павярнула галаву ў пошуках Пігласа. Але яго нідзе не было. Ён знік. Не папрасіўшы ў бабулі прабачэння, Бася кінулася шукаць сябра. Мандарыны ляжалі на снезе.

– Піглас! Піглас! – крычала Бася.

Дзяўчынка шукала свайго новага сябра ўсюды: і на вуліцы, і ў доме. Яна зазірнула пад усе ложкі, адчыніла маміну шкатулку і нават халадзільнік.

– Няўжо я больш ніколі яго не пабачу? – у скрусе падумала Бася, і слёзы пацяклі з яе вачэй…

– Што здарылася? – спытала мама ў Басі.

Усхліпваючы, дачка распавяла ёй пра бабулю і рассыпаныя на снезе мандарыны. Дзяўчынцы так хацелася расказаць пра Пігласа, але яна баялася, што мама ўсё адно не паверыць.

– А ты папрасіла прабачэння і дапамагла бабулі сабраць мандарыны? – спытала мама.

– Не… А! Дык вось чаму Пігласа знік!

– Хто знік?

– Мама, я ўсё зразумела!





Бася ляжала на ложку і думала пра тое, што заўтра яна знойдзе бабулю, збярэ ўсе мандарыны і папросіць прабачэння тысячу разоў. Пэўна, тады Піглас вернецца да яе.

## ПРЫШЧЭПКА

Мінуў тыдзень. Быў сонечны дзень. Маці развешвала бялізну, прымацоўваючы яе драўлянымі прышчэпкамі да вяроўкі. Бася каталася на санках непадалёк. І час ад часу чулася гучнае «Йуху-у-у-у». Басіна шапка спаўзла на вочы. Мама глядзела на дачку і ўсміхалася. Усім дзецям было весела. Толькі адзін хлопчык стаяў на горцы і сумна пазіраў на іншых: у яго не было санак.

– Хочаш, я пракачуся разам з табой? – прапанавала хлопчыку Бася.



– Ага...

– Тады сядай!

І яны панесліся з гары. А потым на хуткасці ўляцелі ў гурбу снегу і занырнулі ў яе з галавой. Дзеці, рагочучы, доўга шукалі ў снезе свае шапкі.

Раптам Бася павярнула галаву і здзіўлена заўважыла, што на вяроўцы, дзе была развешана бялізна, сядзіць Пігласс і дзяўбе прышчэпку.

– Пігласс! Пігласс!!!





Не паспела дзяўчынка зрабіць і двух крокаў насустрач, як Пігласпраглынуў прышчэпку.

– Ты ясі прышчэпкі?!

Бася не магла адарваць вачэй ад Пігласа.

Увечары дзяўчынка паклала некалькі драўляных прышчэпак на падаконне і пачала чакаць. Бася вельмі засумавала па Пігласу.

Ранкам Бася заўважыла, што прышчэпак на падаконні няма, а па ўсім пакоі лётаюць бурбалкі.

Піглас вярнуўся.

## НАТХНЕННЕ

Бася вырашыла намаляваць партрэт Пігласа. Мінула ажно гадзіна, але партрэт аніяк не атрымліваўся: натхненне знікла.

Бася ўстала і пайшла на яго пошукі ў суседні пакой. Мама сядзела за сталом і глядзела ў манітор ноўтбука.

– Мама, што ты робіш?

– Шукаю натхненне.

– Я таксама.



Бася падумала: «Няхай у мяне сёння не атрымаецца партрэт, каб толькі натхненне завітала да мамы».

І толькі яна пра гэта падумала, як пакой напоўніўся бурбалкамі. Піглас сеў на маміны плечы. Яна зрабіла глыток кавы і пачала хутка нешта друкаваць.

– Піглас, ты прынёс маме натхненне! Дзякуй!





Бася ціхутка пайшла ў свой пакой і села за стол.

– Люблю, калі мама ўсміхаецца, – падумала Бася і паглядзела на свой малюнак. Піглас сеў ёй акурат на галаву.




Бася ўзяла аловак у рукі. Партрэт атрымаўся адзін у адзін.




## ТАТА

Аднойчы ўвечары тата пайшоў на вуліцу і доўга не вяртаўся. Маці трымала яго шалік у руках і плакала. На вуліцы сцямнела, але таты ўсё не было. Бася падумала, што тата заблукаў у лесе.

– Піглас! – паклікала Бася.

Піглас адразу з’явіўся ў акне. Дзяўчынка апранулася і выбегла да яго на двор.



– Тата пайшоў на вуліцу без шаліка і заблукаў. Знайдзі яго, калі ласка, і прывядзі дадому, – папрасіла Бася.

Піглас адразу ж паляцеў.



У лесе было цёмна. Тата, знямоглы, шукаў дарогу дадому, але завіруха была такая густая, што замяло ўсе сцяжынкі. Ён спыніўся і думаў, куды ісці далей. Піглас падляцеў да яго і сеў на плячо. І адразу ж завіруха супакоілася.

«Мяняецца цыклон», – падумаў тата.

Ён агледзеўся і ўбачыў праз яловыя галіны гарадскія агні. Ён пабег з усіх ног, бо дома яго чакалі.



Цяжка дыхаючы, тата стаяў за дзвярыма і ніяк не мог наважыцца пастукаць. Мама сама адчыніла. Тата абняў маму моцна-моцна.

– Прабач! – сказаў тата і пацалаваў маму. – Я болей ніколі не пайду на вуліцу без шаліка.

Яны яшчэ доўга стаялі ў абдымках, а каля іх лётаў Пігласс і радасна махаў крыламі. Але яго бачыла толькі Бася.

– Дзякуй, Піглас! – зашаптала дзяўчынка.

## НАРАДЖЭННЕ

У пакоі запахла ігліцаю.

«Тата прынёс елку», – падумала Бася.

Яна выбегла насустрач і ахнула ад здзіўлення. Елка была да самай столі.

– Бася! Ты зноў не расчасалася.

Бася цяжка ўздыхнула і пайшла ў пакой за грабянцом. Але яго чамусьці нідзе не было.



На наступны дзень, збіраючыся ў школу, Бася заўважыла, што знік яшчэ адзін грабянец. Чырвоны.

На трэці дзень знік ужо блакітны. Мамін улюбёны. Бася нават спазнілася ў школу, пакуль шукала яго.

– Куды падзеліся твае грабянцы? – за вячэрай спытала маці.

– Не ведаю, – адказала дзяўчынка і апусціла вочы ў талерку.

Увечары яна паклала грабянец пад падушку.

«Так ён дакладна не згубіцца», – думала Бася засынаючы. Але раніцай пад падушкаю было пуста.



Потым знік грабянец таты.

Увечары Бася пачула штурханне у шафе. Яна адчыніла дзверы і ахнула: на паліцы ў гняздзе, пабудаваным з грабянцоў, якія зніклі, ляжалі тры яйкі.

Ад здзіўлення Бася страціла мову.



І раптам з яек пачалі з'яўляцца маленькія пігласы. Бася так хацела іх кранучь, але баялася.

Раптам акно адчынілася і ў пакой заляцела безліч сняжынак. Пігласы хапалі іх дзюбкамі. Яны ўзляцелі і выпусцілі бурбалкі. Гэта былі іх першыя ў жыцці словы.

– Як цудоўна, – падумала Бася.

– Як цудоўна! – у адзін голас сказалі мама і тата, якія ўпершыню пабачылі каляровыя бурбалкі на елцы.





Гадзіннік прабіў поўнач.

– З Новым годам!!! – крычала радасная Бася.

Мама і тата ўсміхаліся.

Бася зайшла ў пакой. Яна падбегла да акна і ўбачыла, што пігласы адляцелі.

«Напэўна, яны спяшаюцца да іншых хлопчыкаў і дзяўчынак», – падумала Бася.

У скрусе яна апусціла галаву і раптам адчула, як нехта сеў ёй на валасы. Яна паглядзела ў люстэрка і засмяялася.

– З Новым годам, Піглас!





Кніга, якую вы трымаеце ў руках, незвычайная. Яе напісала мастак і журналіст Надзя Бука. Гэта кніга для яе дэбютная. Хто такі Піглас, аматары творчасці Надзі ведаюць даўно. Незвычайная птушка, якая есць драўляныя прышчэпкі і размаўляе бурбалкамі, з'яўлялася на шматлікіх карцінах мастачкі. Асабліва Піглас падабаўся дзецям. Аднойчы Надзя вырашыла напісаць гісторыю пра яго нараджэнне. Так з'явілася дзяўчынка Бася і яе цікавы, поўны прыгод сусвет. Да кожнага хлопчыка і дзяўчынкі можа калісьці прыляцець Піглас, для гэтага трэба толькі ў яго паверыць і пакінуць на падаконні некалькі драўляных прышчэпак.



ISBN 978-985-575-117-6